Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

АДНА ЗЯМЛЯ

# Рэгіянальная газета

9 - 15 СТУДЗЕНЯ 1998 ГОДА
ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ
3000 РУБЛЁЎ

2 (142)

Суд ды справа

## Ці пойдзе адклад у лад?

### Справа Шарамета па-ранейшым прыцягвае ўвагу

*АШМЯНЫ. Судовы працэс над журналістамі ОРТ у пераднавагодні дзень 29 снежня быў адкладзены з-за хваробы Паўла Шарамета на 5 студзеня. Ды і тады ён не адбыўся. Прычына-- няяўка адваката. Але тым не менш у панядзелак напачатку работы суда Павел змог зачытаць свой зварот, у якім выказаў абурэнне парушэннямі розных нормаў заканадаўства і незадаволеннем хадайніцтваў з боку падсудных і іх адвакатаў.*

*Пачатак. Заканчэнне на 3-й стар.*

Конкурс "Фотамадэль рэгіёна"

## Пра нелюбоў да посуду і ідэал мужчыны

***Падчас падрыхтоўкі гэтага нумара ў рэдакцыі прайшло "галасаванне", на якім падсумаваныя вынікі мінулагодняга конкурсу "Фотамадэль рэгіёна".***

Чытачы, як і чакалася з іхніх допісаў у рэдакцыю, свае сімпатыі аддалі **Тані**, чыё фота было змешчана ў №49 "РГ" за 5-11 снежня.

Абмеркаванне ж лепшай, на погляд работнікаў "РГ", канкурсанткі сталася няпростым. Не абышлося без спрэчак пры вызначэнні крытэрыяў падліку балаў. Кожны з сямі супрацоўнікаў газеты называў сваю тройку пераможцаў (за 1, 2 і 3 месцы ўдзельніцы атрымлівалі пэўную колькасць балаў). Усяго былі "задзейнічаныя" імёны 11 дзяўчат.

У выніку з перавагай у адзін бал на першым месцы, як і ў чытачоў, апынулася **Таня** (№49 "РГ" за 5-11 снежня, фота **Сяргея Марачынскага**). На другім месцы - **Лена** (№50 за 12-18 снежня, фота **Аляксея Фяцісава**). Спецыяльны прыз, як самая абаяльная ўдзельніца, атрымлівае 11-гадовая **Іра** (№47 за 21-27 лістапада, фота **Аляксандра Пракаповіча**).

На жаль, сярод пераможцаў толькі маладзечанкі. Але ў рэдакцыйным архіве ёсць здымкі прыгажунь і з іншых месцаў рэгіёна (дарэчы, просім адгукнуцца **Сашу** са смаргонскай вёскі Сяменкі - цяпер навучэнку вілейскага ПТВ-200). З вясны "Рэгіянальная газета" пачынае новы конкурс "Фотамадэляў рэгіёна". Дасылайце свае (і прыгожых суседак) здымкі і сачыце за газетай. Дарэчы, як нам стала вядома, некалькімі канкурсанткамі зацікавіліся фірмы, якім патрэбныя рэкламныя паслугі. Некаторыя нават плануюць стварэнне рэкламнага іміджа сваёй арганізацыі пры дапамозе дзяўчат з рэгіёна.


ІРА


ТАНЯ

І, натуральна, невялікае інтэрв'ю з абсалютнай пераможцай конкурсу. Яна, дарэчы, замужам (16 студзеня гэтай падзеі спаўняецца 5 год), мае дзвюх дачок - 4,5-гадовую **Юлю** і 2-гадовую **Насцю**.

- З ініцыятывы мужа я і вырашыла ўзяць удзел у конкурсе,- гаворыць Таня.- Ён праявіў, я б сказала, упартую настойлівасць. Галоўным быў сам удзел у конкурсе, каб засталася памяць, асабліва ж - прыклад для дачок.

***- А перамога хіба не цікавіла?***

- Так, натуральна. Але ў гэтым мяне зноў жа пераконваў муж, які на 70% быў упэўнены ў маім магчымым лідэрстве. Ён наогул упэўнены ўва мне, пераконвае ў тым і мяне. Сам фатаграфаваў, бо "заела" і яго: няўжо не зможа зрабіць варты фотаздымак?

***- Можна зразумець, што ты цяпер у адпачынку - даглядаеш дзяцей. А затым?***

- Па адукацыі я фельчар, у 1994-м быў такі выпуск у маладзечанскім філіяле Мінскага медвучылішча. І ў панядзелак іду ўладкоўвацца на работу, бо ўсё жыццё марыла быць медыкам. Хачу вучыцца і далей - шкада, праўда, што завочнае навучанне ёсць толькі па спецыяльнасці "фармацэўт".


ЛЕНА

***- Ці часта ў вашай сям'і прымаюць гасцей?***

- Часта - не тое слова. Муж, напэўна, стамляецца. І абавязкова гатуем пельмені - гэта наша "нацыянальная" страва.

***- А недахопаў у цябе шмат?***

- Ёсць крыху. Адчуваю, што раўнівая - хаця муж мне падставаў для гэтага ніколі не даваў. Але вось затрымаецца ён з работы, і мне хочацца нешта думаць "такое". Хаця далёка не заўсёды гавару штосьці аб сваіх хваляваннях. Не люблю мыць посуд.

***- Мусіць, таму муж і стамляецца, што госці часта?***

- Але гэтым ён сабе і "балы зарабляе".

***- Ідэал мужчыны?***

- Не самалюбівы, не лайдак, сімпатычны (але не прыгажун, бо такія зазнаюцца). Вось такія мае характарыстыкі. Дзякуй "Рэгіянальнай газеце" за магчымасць паўдзельнічаць у конкурсе. Чытачам раю падпісвацца і расказаць пра газету сябрам, знаёмым - ведаю, што многія мае знаёмыя падчас конкурсу так і рабілі.

***- Віншуем з перамогай. І далейшых поспехаў.***

**Вядучы рубрыкі Адам ДАЎГАЛЁЎ.**

Вачамі замежнага госця

## Японія знаёміцца з Маладзечнам

**Маладзечна - адзін з прыгранічных гарадоў, і даволі часта тут адбываюцца з прыезджымі выпадкі, якія ніколі не здараюцца з гараджанамі.**

***Незнаёмы чалавек заўсёды прыкметны, асабліва, калі ты японец. І гэта вельмі добра зазнаў я са сваім таварышам Такафумі Сайто, стажорам філалагічнага факультэта БДУ. Не паспелі мы зайсці ў прывакзальны кафетэрый Маладзечна і ўзяць чай з булачкай, як на нас "спікіраваў" міліцыянер з дружыннікам: Вашы дакументы! Так госць пазнаёміўся з Маладзечнам. На шчасце, не ў аддзяленні міліцыі, вартавыя парадку адпусцілі нас "з мірам" пасля нашых тлумачэнняў, куды і чаго мы едзем. - Дарэчы, - сказаў ён потым мне, - гэты момант я адзначу ў сваёй кнізе, якую пішу пра звычаі і культуру Беларусі. Пра тое, чым "дыхае" сучасная Японія, ён і расказаў у гутарцы.***

Больш за ўсё, - расказвае мне ён, - у японцаў цэніцца працавітасць, цярпімасць. Здавён склаўся вобраз такога гаспадарлівага, працавітага чалавека. Раней японец працаваў на імператара, пасля Другой сусветнай вайны на кампанію.

Аднак моладзь цяпер жыве больш прынцыпам: не хачу вучыцца - хачу гуляць і весяліцца. Бо з той пары, як эканоміка краіны пачала ісці на ўздым, стала магчымым, маючы часовую работу, карміць сям'ю. Асабліва да "гультаявання" схільная моладзь ад 15-16 да 20 год. Яны збіраюцца на плошчы, вуліцах з плэерамі, ролікамі і "тусуюцца". Ці, прасцей, размаўляюць адзін з адным. Раней таксама збіраліся маладзёжныя кампаніі, але яны бавілі час, граючы на гітары, спяваючы песні. Цяпер моладзь даволі многа ўжывае піва і вырашае свае, толькі ёй вядомыя праблемы. Найбольш папулярнае ў іх піва "Асахі" (Ранішняе сонца). Яно самае моцнае з гатункаў піва, якія выпускаюцца ў Японіі. Сярэдні па моцунку напітак - "Сакс", ён дзесьці каля 25 градусаў. Найбольш моцны - каля 40 градусаў. Піва карыстаецца папулярнасцю і ў дарослых мужчын. Яны практычна кожны дзень заходзяць у бар і выпіваюць вялікі куфаль гэтага напітку. Асабліва часта яго ўжываюць летам, тады адкрываюцца часовыя рэстараны. Асноўная закуска да піва сыр, рыба, але больш за ўсё "эдамамі" (зялёныя маладыя бабы, звараныя ў салёнай вадзе), гэта самая танная і папулярная ў японцаў закуска.

*Пачатак. Заканчэнне на 2-й стар.*



Навіны

## Новая тэндэнцыя

***СМАРГОНЬ. Напрыканцы мінулага года прадпрыемствы горада атрымалі ад мясцовых уладаў новую установку: узяць курс на шматпрофільнасць.***

Гэта азначае, што яны павінны асвоіць вытворчасць якіх-небудзь неўласцівых іх сённяшняму накірунку тавараў. Робіцца гэта з мэтай стварэння новых рабочых месцаў і ліквідацыі таварнага дэфіцыту.

**Валянціна ВЕШТАРТ.**

## Не зарасце народная сцяжынка

***ВАЛОЖЫН. У цэнтры горада з'явілася новае культавае збудаванне - малітоўны дом царквы хрысціян веры Евангельскай "Крыніца жыцця".***

Прыстасавалі пад яго будынак майстэрні па рамонце абутку. Вернікі выкупілі яго ў камбіната бытавога абслугоўвання. Зрабілі капітальны рамонт і цяпер там праводзяць свае службы.

**Сямён ШТЭЙНЕР.**

## СМІ актывізуюцца

***СМАРГОНЬ. Калі шмат дзе ў краіне газеты, іншыя СМІ закрываюцца, то Смаргоншчына, падобна, вырашыла зламаць гэтую тэндэнцыю.***

Акрамя існуючых тут дзвюх газет (дзяржаўнага "Светлага шляха" і недзяржаўнай "НгС") яшчэ з верасня вядзе свае праграмы недзяржаўнае кабельнае тэлебачанне. У хуткім часе мусіць запрацаваць і мясцовае радыё - ініцыятарам яго стварэння выступіў райвыканком.

Такім чынам, інфармаванасць жыхароў райцэнтра падтрымліваецца на даволі высокім узроўні.

**Валянціна ВЕШТАРТ.**

Адным абзацам

✱ У Вілейцы прайшоў абласны семінар загадчыкаў аддзелаў культуры гар-, райвыканкомаў "Традыцыі і сучасная культура". У раёне адзначаныя работы майстроў-настаўнікаў **Сяргея Гарачава**, **Ігната Каркоцкага**, **Алены Шаблыкі**.

З нагоды

## Гарэлка вінаватая

***Няўдала пад Краснадарам завяршылася спроба амерыканскага мільянера Стыва Фосэта ажыццявіць першы беспасадачны палёт вакол свету на паветраным шары і гэтым зарабіць мільён долараў.***

З-за няспраўнай гарэлкі рух прыйшлося спыніць. Але яму яшчэ пашанцавала, што мяжу СНД перасек у Расіі. Каб ён гэта зрабіў у Беларусі, то мы б маглі ўспомніць і тых двух амерыканцаў, якіх збілі беларускія вайскоўцы проціпаветранай абароны ў 1996 годзе.

**Аддзел інфармацыі.**

Стары альбом



125 гадоў таму, 14 студзеня 1873 года, на Лібава-Роменскай чыгунцы, якая толькі што ўвайшла ў строй, са станцыі Маладзечна па скразной лініі руху Гомель-Мінск-Вільня рушыў першы цягнік. Гэтая акалічнасць паслужыла магутным штуршком для эканамічнага і колькаснага росту тагачаснага заштатнага мястэчка, якое з цягам часу вырасла ў прыгожы індустрыяльны стотысячны горад. *На здымку са Старога альбома тагачасны чыгуначны вакзал на станцыі Маладзечна.*

*Алесь ЦАДКО.*

ФОТА З ФОНДАЎ МІНСКАГА АБЛАСНОГА КРАЯЗНАЎЧАГА МУЗЕЯ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

Крымінал, здарэнні, хроніка

## Зімовыя гастролі

***СМАРГОНЬ. Трох злачынцаў затрымалі ноччу ў магазіне вёскі Сінькі. Усе яны - жыхары Маладзечна.***

Наркаманы са Смаленска на тэрыторыі Крэўскага сельсавета ў мясцовых купілі 15 кг макавай саломкі. Іх таксама затрымалі на месцы.

*Тарэса КУМІШЧА.*

## Трупы ў падарунак

***МАЛАДЗЕЧНА. Пасля наведвання дыскатэкі 18-гадовы жыхар Маліноўшчыны заснуў дома з цыгарэтай. Атруціўся чадным газам.***

Сужыцельніца не змагла выратаваць "мужа", гаспадара дома па 3-м Сухім завулку. Пасля ўзгарання дома яна своечасова не разбудзіла няшчаснага і не выклікала пажарных.

*Міхаіл ІВАШ.*

## Кіслае каханне

***АШМЯНЫ. Жанчына, 1972 г. н., якая знаходзіцца ў адпачынку па догляду дзіцяці - сыну 2 гады - кіслатой пашкодзіла твар саперніцы.***

Яшчэ з красавіка з-за рэўнасці пачаліся высвятленні адносінаў. Пацярпелая з Гальшанаў, жыве на кватэры, не замужам, працуе ў аўтобуснай гаспадарцы. За 4 дні да трагедыі "падманутая" жонка кіслатой лінула на адзенне. Не задаволеная ўчынкам, падпільнавала ахвяру ля яе дома і кіслатой пляснула ўжо ў твар.

Жанчыне цяпер патрабуецца пластычная аперацыя. Па афіцыйнай версіі, падставаў для помсты не было.

*Святлана ВЯЛЬСКАЯ.*

Анонс

# Трагедыя Ілішчавіч

***Многім чытачам памятная серыя матэрыялаў "Ахвяры СД", падрыхтаваных супрацоўніцай Вілейскага гісторыка-краязнаўчага музея Вольгай КОЛАСАВАЙ і надрукаваных у некалькіх леташніх нумарах "РГ". У іх расказвалася і аб замаху на кіраўніка СД у Вілейцы Граве. Што ж было затым?***

Да нас дайшла запіска, адрасаваная нашчадкам жыхаром Ілішчавіч, былым старшынёй Асіпавіцкага сельсавета **Васілём Сыракващам.** Ён добра ведаў, чаго можна чакаць ад фашыстаў, таму напісаў:

*Германскія войскі 26 і 28 мая спалілі ўсе вёскі (іх разбамбілі на ўзыходзе сонца, а затым пяхота дапальвала збудаванні і дабівала цудам уцалелых людзей - **аўт.**), якія знаходзяцца вакол нас, і мы, чакаючы такога самага кабарства, гэта значыць смерці... тое-сёе хавалі.*

*29 мая 1944 г.*

Немцы не прымусілі сябе чакаць доўга. Уварваліся ў вёску праз два тыдні... Васілю Якаўлевічу хапіла тады мужнасці пад нацэленым у сэрца кулямётам кінуць фашыстам словы, напэўна, мацнейшыя за выбух гранаты. Адбылася незапланаваная катамі замінка ў расправе над мірнымі невінаватымі жыхарамі. Заплаціўшы сваім жыццём, ён выратаваў ад смерці большую частку аднавяскоўцаў. Забіта тады было 30 чалавек.

**Аб трагедыі вёскі непадалёк ад Вілейкі больш падрабязна ў адным з бліжэйшых нумароў "РГ" раскажа Аляксандр НАРКЕВІЧ.**

Канфлікт

## Супрацьстаянне

***МАЛАДЗЕЧНА. 13 гадоў Леанід Квіткевіч пісаў скаргі ў розныя інстанцыі. Нядаўна атрымаў ліст з Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва.***

Мясцовым уладам даручана выканаць у яго кватэры па вул. Я. Купалы, 124 рамонт: замяніць тынкоўку, падлогу на драўляную, уставіць двайныя дзверы. Але гаспадара гэта не задавальняе. Ён хоча практычна немагчымага: зняць з лесвічнай пляцоўкі электраабсталяванне і закласці нішу, пабудаваць тамбур ля дзвярэй, умацаваць падмурак дома...

Інакш кажучы, Квіткевіч хоча новую кватэру. Супрацьстаянне працягваецца.

*Васіль САВІЦКІ.*

Фонд міру

## Сярод фундатараў - садок

***СМАРГОНЬ. Папаўняецца скарбонка аддзялення "Фонду міру". На "мір" пералічана за год 30 мільёнаў.***

Сярод "фундатараў" нават дзіцячы садок № 13, Сасноўская і Міцкевіцкая базавыя школы. Грошай няшмат. Але гэта адзін з лепшых паказчыкаў па Гродзеншчыне.

*Тарэса КУМІШЧА.*

Нашы інтэрв'ю

# Японія знаёміцца з Маладзечнам

*Заканчэнне.*

*Пачатак на 1-й стар.*

***- Якая ў японцаў нацыянальная страва? Што яны любяць есці?***

- Старое пакаленне любіць ужываць рыбу, а маладыя - мяса (ялавічыну). Найбольш традыцыйнай стравай у японцаў лічыцца Сусі (рыс з воцатам і кавалачкам сырой рыбы). Бо цяпер хоць і асноўная наша ежа - рыс, мы пераходзім на еўрапейскі стыль харчавання - мяса, хлеб. Еўропа і Амерыка аказваюць на нас у гэтых адносінах вельмі вялікі ўплыў.

***- Але, напэўна, у вас захавалася традыцыя піцця чаю?***

- Так, вядома. Мы ўжываем толькі свой, японскі чай. Найбольш распаўсюджаны з іх "Гакуро", зялёны. Смак - крыху гаркаваты.

***- Якія помнікі найбольш вядомыя, і якімі ганарацца ў Японіі?***

- Найбольш вядомы ў Японіі помнік - гэта замкі "Асака" і "Джоў". Іх формы такія прыгожыя, што можна параўнаць па прыгажосці з белай чапляй (чапля для японца - сімвал прыгажосці).

***- У чым японцы бачаць сэнс жыцця?***

- Старое пакаленне - у працы. У ёй усё жыццё. Хаця канец такіх людзей вельмі трагічны - жыць на пенсію хоць і можна, але вельмі цяжка. Ды і да таго ж яны лічаць, што калі ў жыцці няма работы, то яно нічога не вартае. Маладое ж пакаленне не ведае, для чаго жыць ім: для работы, для кахання, для грошай? Яны не могуць знайсці сваю мэту ў жыцці.

***- Раскажыце пра сродкі масавай інфармацыі ў Японіі.***

- Асноўныя газеты ў нас "Асахі", "Ёміуры". Гэта грамадска-палітычныя выданні. Па тэлебачанні ідзе сем каналаў. Часцей за ўсё ў праграме сустракаюцца камедыйныя шоў. З фільмаў найбольш часта ідуць амерыканскія. Нашага кіно менш і яно, у асноўным, пра каханне.

***- Эротыка прысутнічае ў друку, кіно?***

- Эратычныя фільмы ў нас рэдкія. Але ёсць эратычнае шоў, японскае. Даволі шмат часопісаў, газет тыпу "Playboy". У кніжных магазінах для такой літаратуры адведзеныя спецыяльныя аддзелы. Ёсць і спецыялізаваныя магазіны, дзе прадаюць не толькі літаратуру такога характару.

***- У колькі год у вас дзяўчаты ўступаюць у палавую сувязь?***

- Некаторыя ў 13-14 год. Аднак гэта бывае вельмі рэдка. Іх такую раннюю заклапочанасць грамадства асуджае. Аднак замуж японкі выходзяць звычайна ўжо жанчынамі.

***- Якія дзяўчаты ў вас больш цэняцца: худзенькія, поўныя?***

- Ну, гэта гледзячы для чаго. Калі пагуляць - тонкія, калі жаніцца - то ў нас у Японіі лічыцца, што поўненькай лягчэй нарадзіць дзіця.

***- Якія кветкі ў вас звычайна дораць дзяўчатам?***

- Больш за ўсё ў нас цэніцца ружа. На мове кветак, калі малады чалавек падарыў дзяўчыне чырвоную ружу, значыць - кахаю. Жоўтую - значыць, ён з ёй развітваецца. Таксама нельга дарыць японцы хрызантэму. Гэтую кветку выкарыстоўваюць, калі чалавека хаваюць.

***- Ну, а калі ўсё ж маладога чалавека напаткала няўдача, то ён можа адправіцца да гейшы?***

- Хутчэй за ўсё, не. Бавіць час з гейшай вельмі дорага. Гэта задавальненне для багатых.

***- Цікава жыць у Японіі?***

- Так, хто праводзіць час актыўна, той знойдзе сабе занятак. У нашай краіне шмат чаго мяняецца і заўсёды вельмі багата незвычайнага і цікавага.

***- Што малююць у вас мастакі?***

- Старое пакаленне найчасцей прыроду і людзей. Аднак цяпер з'явілася даволі шмат авангардыстаў.

***- Найбольш любімыя віды спорту ў Японіі?***

- Бейсбол, футбол і сумо. Сумо асабліва. Японцы вельмі любяць глядзець барацьбу самых тоўстых людзей краіны.

***- Раскажыце традыцыйную казку для японскіх дзяцей?***

- Так, такая казка ёсць. Жылі-былі дзед і бабка. І аднойчы дзед пайшоў збіраць сухое галлё, а бабка - мыць бялізну на раку. І раптам бачыць: плыве па рацэ персік. Яна ўзяла і прынесла яго дадому. Там яны з дзедам вырашылі яго з'есці. Але толькі бабка парэзала яго, як з персіка з'явіўся хлопчык. І дзед з бабкай назвалі яго Моматару (хлопчык з беражка). Гэтае дзіця вырасла і стала дужым чалавекам. Але аднойчы тую вёску, дзе ён жыў, наведалі нядобрыя духі (д'яблы) і пакралі ў дзяцей шмат патрэбных ім рэчаў. І тады вырашыў гэты хлопчык з імі біцца. Дзед выкаваў для хлопчыка кальчугу і меч. А бабка выпекла камячок з проса. Так хлопчык рушыў да астравоў, дзе жылі гэтыя д'яблы. Але па дарозе ён сустрэў сабаку. Сабака папрасіў даць яму кавалачак камячка. Хлопчык сказаў, што дасць, калі той дапаможа яму ў бойцы. Той згадзіўся. Да канца падарожжа хлопчык раздаў увесь камячок, але ў яго былі ўжо тры памочнікі: сабака, малпа і фазан. З імі ён і перамог сваіх ворагаў, адабраўшы скарб. Сэнс гэтай казкі ў тым, што справядлівасць заўсёды пераможа.

***- Спадзяюся, што ў жыцці Японіі часцей перамагае новае, бо і сімвал вашай краіны - узыходзячае сонца.***

*Мікалай ВАСІЛЕЎСКІ.*

# Справа Шарамета яшчэ прыцягвае увагу

*Заканчэнне.*
*Пачатак на 1-й стар.*

А старшыня Астравецкай раённай арганізацыі Усебеларускага клуба выбаршчыкаў передаў у суд заяву ад сваёй арганізацыі, дзе ў прыватнасці, гаворыцца: *Дзеянні групы тэлежурналістаў трэба разглядаць не як крымінальна пакаральнае дзеянне, а як мужны і смелы грамадзянскі ўчынак сапраўдных патрыётаў нашай Айчыны, якім дарагія не толькі інтарэсы нашага беларускага, але і братэрскага рускага народаў. Журналісты правільна ў сваім рэпартажы засяродзілі ўвагу шырокай грамадскасці на тым, што паўночна-заходні ўчастак граніцы не зусім у парадку з крымінальнага пункту гледжання, кантрабанды і шматлікіх іншых негатыўных праяў, якія тут ёсць у празмернасці.*

*Да прыкладу, граніца з Літоўскай рэспублікай на Астравеччыне складае прыкладна 60 кіламетраў. Яна ўся празрыстая. Грамадзяне і кіраўнікі Астравецкага раёна рэгулярна парушаюць граніцу ў розных месцах, здзяйсняючы розныя здзелкі, але ніхто з іх афіцыйна не затрыманы і не прыцягнуты да крымінальнай адказнасці. Толькі на працягу 1994- 1996 гадоў група каўказцаў з дапамогай астравецкай мытні і камітэта пагранічных войскаў праз станцыю Гудагай перавезла 300 вагонаў кантрабанднага спірту, у выніку чаго Беларусі і Расіі прычынены велізарны эканамічны ўрон. Аднак да гэтага часу ніхто не сеў на лаву падсудных. У маі 1997 года з-пад аховы гэтыя вышэйназваныя асобы ўгналі восем аўтафургонаў са спіртам і пазбеглі пакарання, бо свабодна перасеклі нашу беларускую празрыстую граніцу.*

У заяве патрабуецца неадкладна спыніць судовы фарс, які разыгрываецца ў сценах Ашмянскага суда, сцэнарый і вынікі якога даўно вядомыя.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ,**
**спецыяльны карэспандэнт "РГ"**



Дзмітрый Завадскі і Павел Шарамет у цэнтры ўвагі журналістаў ля будынка Ашмянскага райсуда.
ФОТА МАР'ЯНА ВЯНГРОЎСКАГА



Адвакаты Паганяйла, Волчак і грамадскі абаронца Нісцюк у час перапынку.

## Уладзімір НІСЦЮК: абвінавачванні фактамі не пацвярджаюцца

***Наш спецыяльны карэспандэнт на судовым працэсе ў Ашмянах* Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ *сустрэўся з грамадскім абаронцам Шарамета, старшынёй камісіі Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання,* Уладзімірам НІСЦЮКОМ, *які сказаў наступнае:***

*Абвінаваўчае заключэнне падрыхтавана вельмі дрэнна, рэальна не адлюстроўвае зместу судовага працэсу. Абвінавачванні, выказаныя ў адрас падабаронных,-- надуманыя рэчы, бо ні адно з абвінавачванняў аргументамі, фактамі, рэчавымі доказамі не пацвярджаецца. З гэтага выцякае, што працэс носіць палітычны характар, юрыдычныя нормы пры падрыхтоўцы працэса і ў ходзе яго проста не ўлічваюцца. Гэта значыць-- усё ідзе да вынясення прыгавора, які не грунтуецца на сапраўдных фактах. У нас галоўны не закон, а службовыя асобы, якія яго інтэрпрэтуюць для вырашэння сваіх задач.*

*Базарны дзень*

**МАЛАДЗЕЧНА.** У апошні дзень старога года на рынку набыць прадукты можна было па наступных цэнах (у рублях у параўнанні з цэнамі мінулага чацвярга):

| Прадукт | 31.12.97 | 7.01.98 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 70 тыс. | **72 тыс.** |
| Кілбаса сыравэндж., 1 кг | 340 тыс. | **340 тыс.** |
| Сасіскі, 1 кг | 79 тыс. | **74,8 тыс.** |
| Селядзец салёны, 1 кг | 39,8 тыс. | **39,8 тыс.** |
| Рыс, 1 кг | 19,5 тыс. | **19,5 тыс.** |
| Цукар, 1 кг | 20,5 тыс. | **20,5 тыс.** |
| Грэчка, 1 кг | 24,9 тыс. | **24,9 тыс.** |
| Алей, бутэлька 1 л | 49 тыс. | **50 тыс.** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 27,2 тыс. | **27,2 тыс.** |
| Маянэз, 250 г | 14,5 тыс. | **14,5 тыс.** |
| Кава "Пеле", 100 г. | 44 тыс. | **48 тыс.** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 20 тыс. | **23 тыс.** |
| Мандарыны, 1 кг | 45 тыс. | **48 тыс.** |
| **Сялянскія прадукты:** | | |
| Смятана 1 л | 30 тыс. | **30 тыс.** |
| Масла 1 кг | 84 тыс. | **80 тыс.** |
| Тварог 1 кг | 30 тыс. | **35 тыс.** |
| Малако 1 л | 9 тыс. | **10 тыс.** |
| Бульба вядро | 65 тыс. | **65 тыс.** |

Працягваецца павышэнне цэнаў на прадукты харчавання на рынку. Яго падштурхоўваюць некалькі прычынаў. Рост курсу замежнай валюты спрыяе падаражанню імпартных тавараў, на цэны на айчынныя прадукты ўплывае павелічэнне затрат у вытворцаў і ў гандлі.

Збылося і наша папярэджванне, што павялічаныя падчас доўгіх святаў цэны ўжо не апусцяцца да ранейшага ўзроўню.

***Аддзел інфармацыі.***

*Мясны рад*

## Рулет, шынка і вэнджаны індык

***МАЛАДЗЕЧНА. Завяршыўся вялікі пост і таму нас зацікавіла, што і па чым прапануюць мясныя аддзелы і павільёны мясцовага гандлю.***

У магазінах гархарчгандлю, калі не чакаецца С. Лінг ці іншыя высокія візіцёры, выбар нешырокі. Прапануецца невялікі асартымент невыразнага выгляду прыдатных на бутэрброды вараных ці паўвэнджаных кілбас па цане ад 80 да 160 тысяч рублёў, польскія сасіскі і сардэлькі па 88 тыс. руб., куры (з невялічкім налётам сіні) па 43 тыс. руб., фарш па 65 тыс. руб. і ежа хуткага прыгатавання - маладзечанскія пельмені "гаранскія" з дадаткам бульбы па 27 200 руб.

Магазіны, якія падтрымліваюць сяброўскія адносіны з мясакамбінатам ці з хажоўскім СП "Акдымол", знаходзяцца ў больш выйгрышным становішчы, бо тут і тыя ж сасіскі больш смачныя, і падчас завозу тавараў можна патрапіць на выбар танных субпрадуктаў, калі ў продажы ёсць сэрца, пячонка, лівер, ногі і хвасты. Але тут прыйдзецца пабавіць час у чэргах.

Хто мае больш высокі заробак, можа сабе дазволіць вэнджаныя далікатэсы па 220-250 тысяч рублёў — балык, паляндвіцу і бужаніну.

Магазіны Аляхновіцкай птушкафабрыкі прапануюць некалькі сартоў кілбас з мяса індыка па 73-90 тысяч, такі ж рулет і шынку па 130-140 тысяч, вэнджанага індыка па 119 тысяч за кілю.

Але больш тавару, вядома, на рынку. Для прыгатавання шніцэля ці адбіўных можна набыць выразку па 120 тысяч. На катлеты, гуляш і смажанку пойдзе свініна ці ялавічына па 80 тысяч. А свіныя рэбры па 65 тысяч добра б было стушыць з бульбай ці капустачкай. Кумпяк па 140 тысяч стане добрым ласункам.

І, можаце паверыць, усё гэта, калі і не танна, то вельмі смачна.

***Міхаіл АЛЕКСАНДРОВІЧ.***

*Рыбны рад*

## Ад плоткі да ментуза

**ВІЛЕЙКА**. У першыя дні студзеня каля Дома культуры можна было ўбачыць амаль сапраўдны рыбны рынак. У асноўным прапаноўвалі **плотку**-- 25 тыс. руб. за кілаграм і **ляшча** -- 30-40 тыс. руб. Значна радзей **шчупака і судака**-- 80-90 тыс. руб. І толькі ў адным месцы можна было набыць сапраўдны далікатэс-- **ментуза**, адзінага прадстаўніка трасковых на Беларусі, за 100 тыс. рублёў.

***Ігар КІЦІКАЎ.***

*Наш пусты партаманет*

**ПРЫХОД.** У перадапошні дзень мінулага года Савет Міністраў пастанавіў павысіць з 1 студзеня мінімальную заработную плату да 250 тысяч рублёў, а тарыфнай стаўкі першага разраду да 500 тысяч, што прывядзе да павелічэння акладаў і заработкаў на прадпрыемствах і ва ўстановах. Гэта прыемная навіна, бо ў нашых кашальках грошай пабольшае. Шкада толькі, што не была прынята пры вызначэнні памеру новай "мінімалкі" лічба федэрацыі прафсаюзаў, якая складае 690 тысяч рублёў.

**РАСХОД.** Здаецца, што навагодні падарунак урада ў якасці павышэння мінімальнай зарплаты абавязкова прынясе з сабой і рост тарыфаў на цепла- і электраэнергію, на сыравіну і матэрыялы. Павышэнне цэнаў таваравытворцаў прывядзе да большых лічбаў на цэнніках у нашых гастраномах, бо новыя партыі тавару будуць паступаць у гандаль і па новых ужо цэнах. На павелічэнне цэнаў таксама значна паўплывае найверагодны рост курсу долара і магчымае павышэнне імпартных пошлін на ўвозімыя з-за мяжы прадукты харчавання, новы парадак падаткаабкладання. Усе адміністрацыйныя спробы ўтрымаць цэны прывядуць толькі да збяднення прылаўкаў і звыклых чэргаў.

**ВЫНІК**. На наша меркаванне, можа здарыцца так, што павышэнне заробкаў ужо хутка будзе нейтралізавана інфляцыяй. У кашальках, і так спустошаных доўгімі святамі, зноў нічога не застанецца.

***Міхаіл АЛЕКСАНДРОВІЧ.***

*Свет дзівакоў*

# Графства былога дэпутата

***МАЛАДЗЕЧНА. Па Вялікасельскай, 33 узнікла незвычайная прыбудова да хаты. Зробленая з камянёў, яна, асабліва ў дождж, спявае кожнай дэталькай. Неўзабаве вырасце другі паверх прыбудовы, ды і сама хаціна ператворыцца ў крэпасць. Усё гэта - справа рук былога дэпутата ВС БССР, слесара завода "Спадарожнік" Віктара Стрэльчанкі.***

## Брэсцкая крэпасць-II

Калісьці Віктар зацікавіўся стварэннем катамаранаў. Адзін такі, самаробны, запусцілі з сябрамі ля горада, а "ўсплыў" ён за Вільняй. Родныя нават хацелі верталётам выпрабавальнікаў шукаць.

Потым яго сябры ажаніліся. Стала сумна ад адзіноты. У рабочага была душа паэта, і яна прагнула выйсця. Надышоў яму час збіраць камяні.

Яго прозвішча мала хто ведае. Але адразу пакажуць хату, гаспадар якой з тачкай ходзіць па вуліцах.

- Камяні трэба выбіраць, каб звінелі, - гаворыць майстар, - граніт нельга выкарыстоўваць, бо шкодны для здароўя, выпраменьвае радыяцыю. Белыя камяні таксама не патрэбныя - насычаюцца вільгаццю.

Матэрыял Віктар падбіраў па структуры, колеры. Клаў амаль на сухі раствор. З ложка зрабіў перасоўны "варштат" і па ім уздымаў камяні наверх. Маналіт крышыў кувалдаю.

Аднойчы яго знаёмы на сваім участку, пад яблынькай, адрыў глыбу. Выцягнуць - тэхніка патрэбная. Дзівак-сусед улез у яму, паўхвіліны папрацаваў кувалдаю ("адразу бачу, куды біць") і па частках выцягнуў загадку прыроды.

## Мачула

- Мы з маці заўсёды жылі, нібы ў талерачцы, - гаворыць Віктар, - участак тапіла. Тады і падумаў, ці можна прыроду прымусіць працаваць на сябе. Выкапаў маленькае азярцо - Мачулу - запусціў туды карасёў. Потым яны атрымалі пачэсную назву панфілаўцаў за жыццястойкасць. Бо асвойвала рыба новую ваду пад рыдлёўку землеўласніка. Ды і вады было "па калена". Цяпер азярцо заўсёды поўнае, а ўчастак перастала тапіць. Сёння ля вады можна пасядзець на лаўцы, паназіраць, як ходзіць карп. Тут жа для душы расце каліна, вінаград, абляпіха, язмін, елка. Каб не даводзілася за кошт зямлі вырашаць сваю харчовую праграму, Віктар участак поўнасцю выкарыстаў бы пад зялёную зону.



ФОТА ВЯЧАСЛАВА ТАМАШЭВІЧА.

Стрэльчанка не будаўнік. Калісьці год адпрацаваў бетоншчыкам. Але ягоная крэпасць не толькі знешне прыемна выглядае. Магчыма, самая "тоўстая" у рэспубліцы. Камень, бітыя блокі, цэгла складаюць паўметровую таўшчыню. Віктар называе сябе дзіваком. Згаджаецца, што быць ім заўсёды было дорага. І асабліва сёння.

***Васіль САВІЦКІ .***

